





***Максім і Наталля на рынку. Эквадор. Selfie: Maksim, Natallia and an Indian woman, Ecuador***

*"У Эквадоры асноўнай валютай з'яўляецца амерыканскі долар. Таксама там адносна стабільныя цэны, у прыватнасці, на хадавыя прадукты: хлеб, малако, мяса, макароны, рыс.*

*А за ўстойлівасцю цэн і якасцю прадукцыі сочаць карэнныя жыхары. Мясцовыя індзейцы, якія жывуць па сваіх законах, нават пры нязначным падаражанні могуць арганізаваць пратэсты, больш страшныя за бандыцкія. І пра гэта сусветная прэса не піша.*

*Напрыклад, папярэднія ўлады трохі паднялі цэннік на бензін. Карэнны народ перакрыў дарогі, праз што парушылася лагістыка і ў крамах на некалькі тыдняў зніклі прадукты. Цэны на паліва адкацілі да папярэдніх паказчыкаў, а палітычнае жыццё ініцыятара павышэння аказалася нядоўгім".*

Максім і Наталля плануюць наведаць Куэнку з яе помнікамі Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА і пераканацца ў спакоі і парадку там.

*"У Эквадоры дастаткова месцаў, каб працягваць адкрываць гэтую краіну зноў і зноў".*

**Літ.:**

*5832 Эквадор: 25 студзеня індзе[й]цы блякавалі галоўную трасу краіны і ўступілі ў бой з салдатамі // Навінкі. 2001. 31 студз. - 15 лют. С. 2.*

*5833 Эквадор: 13 лютага ўлады адмянілі надзвычайнае становішча, уведзенае пасьля моцнай хвалі індзейскіх пратэстаў [...] // Навінкі. 2001. 15-25 лют. С. 2.*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou*** *(e-mail: baicri@tut.by),*
*researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*

***Индейцы, Indianie, Indians, indigenous peoples, indigenas, indios de America y Belarus; Алесь Симаков. Белорусы встречаются с индейцами. [Вып. 86].***

# Провады зімы

Гарадскі парк культуры і адпачынку

3 сакавіка 2024

г. Ліда 12:00

Раённае свята

«ПРОВАДЫ ЗІМЫ»

госці свята:
-Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь народны вакальны ансамбль
«БЕЛЫ ПТАХ»
г. Мінск

У праграме:
- тэатралізаваная дзея «Вясну гукаем, свята песняй сустракаем!»
- канцэрт лепшых калектываў Лідчыны
- фольк-пляцоўка, майстар-класы, выстаўка-кірмаш народных рамёстваў, вогнішча «Гары-гары ясна»
- конкурс лялек «Шчодрая гаспадыня»
- святочны гандаль, атракцыёны, квэсты, гульні, забавы, спартыўныя выпрабаванні, падарункі і сюрпрызы ад арганізатараў

0+



3 сакавіка ў 12:00 запрашаем у Гарадскі парк культуры і адпачынку г. Ліды на раённае свята «ПРОВАДЫ ЗІМЫ»

Вас чакаюць:

- тэатралізаваная дзея «Вясну гукаем, свята песняй сустракаем!»
- канцэрт лепшых калектываў Лідчыны
- фольк-пляцоўка, майстар-класы, выстаўка-кірмаш народных рамёстваў, вогнішча «Гары-гары ясна»
- конкурс лялек «Шчодрая гаспадыня»
- святочны гандаль, атракцыёны, квэсты, гульні, забавы, спартыўныя выпрабаванні, падарункі і сюрпрызы ад арганізатараў.

ГОСЦЬ свята: Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь народны вакальны ансамбль «БЕЛЫ ПТАХ», г. Менск.



№ 9 (113) 28 ЛЮТАГА 2024 г.
наша СЛОВА.pdf

# Метадычная дапамога не зашкодзіць

Музей ва ўстанове адукацыі - своеасаблівая візітная картка з дыханнем гісторыі... У Лідзе і Лідскім раёне іх 36.

У Лідскім раённым цэнтры экалогіі, турызму і краязнаўства адбыўся навучалы семінар для кіраўнікоў музеяў устаноў адукацыі, са стажам працы на пасадзе да 2-х гадоў.

Як сфармаваць асноўны фонд музея, як правільна аформіць музейныя прадметы пры паступленні ў музей, якія асноўныя прынцыпы стварэння тэматычных выстаў і экспазіцый - гэтыя і іншыя пытанні стаялі на парадку дня.









Усім удзельнікам уручаны сертыфікаты, якія пацвярджаюць паспяховае засваенне праграмы семінара.

***Мадэратар семінара: Тацяна Ярошка, метадыст Лідскага РЦЭТІК.***

***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

*Адрас рэдакцыі:*
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 26.02.2024 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 3,5 друкаванага аркуша.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*